© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 48 (1759) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 26 ЛІСТАПАДА 1989 г. Цана 150 зл.




Фота Збігнева Шчэнснага.

## Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі САВА

Архіепіскап Сава (Міхал Грыцуняк) нарадзіўся ў 1938 годзе ў сялянскай сям'і, у мясцовасці Снятычы (цяпер у Замойскім ваяводстве). Закончыў Духоўную праваслаўную семінарыю ў Варшаве, потым Хрысціянскую тэалагічную акадэмію. Лёс прадвызначыў яму надзвычай багатую і плённую дзейнасць на ніве Праваслаўнай царквы ў Польшчы. Доўгі час быў выкладчыкам у Духоўнай семінарыі ў Варшаве, з 1970 года стаў настаяцелем Манастыра св. Апуфрыя ў Яблачыне, з 1974 года — рэктарам Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Яблачыне. У 1966 годзе атрымаў навуковую ступень доктара тэалогіі на тэалагічным факультэце Белградскага універсітэта, а ў 1979 годзе ў Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі — габілітацыю ў галіне праваслаўнай дагматычнай тэалогіі. З 1984 года з'яўляецца прарэктарам Акадэміі ў Варшаве. Адначасова з поступам навукова-асветніцкай дзейнасці ўладыкі Савы наступілі павышэнні ў царкоўнай іерархіі: 1964 — высвячэнне на дыякана, 1966 — высвячэнне на духоўны чын, 1969 — павышэнне ў чын ігумена, 1970 — чын архімандрыта, 25.11.1979 — высвячэнне на епіскапа Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, 1988 — павышэнне ў чын архіепіскапа. З 1979 па 1981 — епіскап Лодзінска-познанскай епархіі, з 1981 — епіскап Беластоцка-гданьскай епархіі.

Рэдакцыя нашага тыднёвіка прыносіць уладыку Саву сардэчныя віншаванні на 10-тыя ўгодкі атрымання годнасці епіскапа і жадае добрага здароўя ды поспехаў у далейшай працы.

Нашым чытачам прапануем інтэрв'ю з Архіепіскапам Савам „Дзеля нашага супольнага адраджэння" (стар. 6—7).

## БГКТ НА НОВЫМ ЭТАПЕ?

(ЗАНАТОЎКІ З ПЛЕНАРНАГА ПАСЯДЖЭННЯ ГП БГКТ)

5 лістапада адбылося пленарнае пасяджэнне ГП БГКТ, другое пасля XI з'езда Таварыства. Адбылося яно ў абставінах, аб якіх год таму, у час з'езда і ў час першага Пленума, ніхто нават не падумаў, што яны могуць узнікнуць. Пад сумненнем знаходзіцца існаванне і дзейнасць нашага Таварыства ў цяперашнім яго выглядзе. З наступнага года змяняецца ведамства, пад апекаю якога мае адбывацца статутовая дзейнасць БГКТ. Культурна-грамадскія таварыствы нацыянальных меншасцяў пераходзяць у распараджэнне Міністэрства культуры. Ці будуць яны фінансаваны гэтым Міністэрствам? Гэтае пытанне застаецца пакуль што нявырашаным. Трэба сабе выразна сказаць, што БГКТ не падрыхтавана да дзейнасці ў варунках поўнага гаспадарчага самаразліку.

Новую грамадска-палітычную сітуацыю ў краіне адлюстроўвалі тэзісы на дыскусію, падрыхтаваныя старшынёю ГП Аляксандрам Баршчэўскім. У іх добрасумленна і шчыра былі пастаўлены самыя істотныя моманты ў дзейнасці БГКТ, якіх дагэтуль асабліва і адкрыта не вылучалі, бо... зараз мне цяжка знайсці хоць адну важкую прычыну, з-за якой у Таварыстве працяглы час панаваў дух застою і нейкай інертнасці. Але цяпер, як кажуць, голаму і босаму няма чаго баяцца за сваю вопратку, так што дыскусія падчас пленума поўнасцю адлюстроўвала думкі і настроі яе ўдзельнікаў. Да яе я і хачу зараз перайсці, адзначыўшы па дарозе, што справаздачу аб дзейнасці БГКТ за мінулы год склаў Віктар Стахвюк, які на працягу мінулага паўгоддзя выконваў абавязкі сакратара ГП. Пра ўсе мерапрыемствы ў большай ці меншай ступені пісала наша газета, і прыгадваць іх тут няма патрэбы. В. Стахвюк паінфармаваў ГП, што папраўкі ў Статуце, унесеныя XI з'ездам, будуць юрыдычна зацверджаны. Нарэшце!

Адгукнуўшыся на тэзіс аб цяснейшым супрацоўніцтве па-

(Працяг на стар. 2)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



*„Світанак“ вітае калектыў „Васілёчкі“.*

# „ВАСІЛЁЧКІ“ Ў СЯБРОЎ

Беларускім калектывам на Беласточчыне абмен з калектывамі ў БССР неабходны. Аднак колькі гадоў чую я, што трэба, добра было б, пастараемся, і, на жаль, вельмі рэдка даводзіцца пачуць, што хтосьці перастаў гаварыць, а пачаў дзейнічаць. Гэта праўда, што нас, беларусаў, раздзяляе граніца, якую пераехаць нялёгка. Калі быў я яшчэ малады і прыгожы, з'ездзіў кусок свету і тое, як пераязджаецца граніца паміж Францыяй і Бельгіяй, можа быць прыкладам для нас, дзе граніца раздзяляе адзін народ. Можа дажывем і мы да гэтага, а зараз трэба думаць, як знайсці сяброў з падобнымі, як і мы, зацікаўленнямі. На Беласточчыне ёсць нямала фальклорных беларускіх калектываў, па другі бок граніцы іх яшчэ больш, аднак многія кіраўнікі толькі мараць аб кантактах з калектывамі ў БССР і не прыступаюць да канкрэтнай працы.

Дырэктар Бельскага дома культуры, адначасова мастацкі кіраўнік бельскага калектыву „Васілёчкі“ Сяргей Лукашук здаўна ўжо думае і дзейнічае крыху інакш, а прыкладам гэтага хай будзе трэцяя ўжо паездка „Васілёчкаў“ на Гродзеншчыну. Ад 25 да 29 кастрычніка славуты хор і інструментальны калектыў наведалі Гродна і іншыя гарады і вёскі. Паехалі яны да сваіх сяброў з калектыву „Світанак“, які працуе пры культурна-асветным вучылішчы ў Гародні, які летам гэтага года пабываў на Беласточчыне на свяце „Газеты Вспулчэснай“ і днях Бельска-Падляшскага.

Седзячы разам з гледачамі ў прыгожай зале Гродзенскага вучылішча, мяне крыху здзіўляла рэакцыя маладых гледачоў. Са сцэны плыла не рок-музыка, а беларускія народныя песні. Аднак, юнакі прымалі песні з вялікім энтузіязмам. Так, гэта быў сапраўдны энтузіязм. Я глядзеў на твары і настаўнікаў з вучылішча, і тых, якія спявалі на сцэне. Усе былі крыху здзіўленыя такім гарачым, сардэчным прыёмам. Многія песні „Васілёчкі“ паўтаралі на „біс“. Што ж можа быць лепшага для артыстаў і да таго аматараў, калі ўсе стаяць і крычаць: „Малайцы! Малайцы!“

Пасля канцэрта я размаўляў з дырэктарам вучылішча Уладзімірам Сяргейчыкам і кіраўніком „Світанка“ Валерым Кручковым. Яны згодна заявілі, што мастацкі ўзровень „Васілёчкаў“ вельмі высокі і што сустрэча з Бельскім калектывам дапаможа ім у працы са сваімі маладымі спевакамі.

— Так выконваць беларускія песні могуць толькі людзі, — сказаў дырэктар вучылішча, — якія любяць песні і сваю родную мову.

А што члены „Васілёчкаў“ любоў да ўсяго роднага маюць у крыві, відаць было на сцэне не



*Хлеб ды соль прымае Сяргей Лукашук.*

толькі ў культурна-асветным вучылішчы, але і ў калгасе ў вёсцы Абухава.

Там захапіў нас будынак Палаца культуры. Гэта сапраўдны палац, пабудаваны за паўтара мільёна рублёў два гады таму назад. Велізарныя канцэртныя залы, памяшканні для працы паасобных калектываў, а ўсюды мармур і дываны. Бачыў многія будынкі, прызначаныя для культурнай працы, аднак з чымсьці такім яшчэ не спаткаўся.

У Абухаве „Васілёчкі“ сустрэліся з мясцовым народным калектывам песні і музыкі і сапраўды была гэта сяброўская сустрэча. Не быў гэта поўны канцэрт, аднак хапіла і гэтага, каб паказаць умельства беларусаў у Польшчы. Напісаў я гэтыя словы спецыяльна таму, што пасля нашага прыезду туды гаспадары, аглядаючы прыгожую вопратку калектыву, гаварылі: прыгожыя гэтыя палякі. Калі даведаліся, што гэта беларусы, былі крыху здзіўлены. Аднак пасля канцэрта ад здзіўлення не астаўся найменшы след. Адразу пасля апошняй песні абухаўцы запрашалі калектыў „Васілёчкі“ на наступны прыезд і таксама гаварылі, што з вялікай ахвотай прыехалі б на Беласточчыну. Я ўпэўнены, што сустрэча на нашай зямлі адбудзецца і не думаю, каб доўга трэба было яе чакаць.

Апрача сустрэч з калектывамі, былі паездкі па Гродзеншчыне. Мяне цешыць тое, што назіраецца штораз большае зацікаўленне беларускай мовай і ўсім беларускім. Можа хтосьці ўсміхнецца, што на Беларусі паўстае Таварыства беларускай мовы. І добра, што яно паўстала, добра, што ёсць „Паходня“ і іншыя патрыятычныя арганізацыі, і можа ў будучым у Свіслачы ці Пінску можна будзе, як у Нараўцы, пагаварыць на вуліцы па-беларуску. Каб здзейснілася гэта хутчэй, такія выезды, як апошні выезд бельскіх „Васілёчкаў“, вельмі карысны і патрэбны.

**У. Праховіч**
Фота аўтара




## ЗДРАДА

(гутарка з суайчыннікамі)

Ты на мове роднай не скажаш
Ані слова, ну ані гука.
Ты не ведаў, што гэта — здрада?
Ну дык вось табе, хам, навука!

Гэта здрада, павер мне, здрада —
Зневажаць і ганьбіць народ свой.
Але ты падтрыманы ўрадам...
Што ж мяне падтрымае? Водка!

Я дастану па блату пляшку,
Запрашу на гешэфт дзяўчыну,
Вып'ем, ляжа рука на ляшку,
Слова „здрада“ на хвілю згіне.

І я ўбачу, пачую ў кайфе:
Беларусь паўстае жывая,
Я — цвярозы, а той надраўся,
Хто прыжыў шавіністаў зграю.

Нешта енчыць у прадчуванні,
Што апошні іх дзень
прыходзіць.
І напраўду — не цені-здані,
Беларусы свой лёс знаходзяць.

Вунь на небе чырвоным — белы
Вершнік скача. Даўно ён з намі.
З ім мы здраднікаў к глебе
сцелем,
Леаніды вяртацца сталі...

Сон паглядзіш — наўкол
парадак,
А прачнешся — якая мука!
Зноўку здрада, спадарства,
здрада..!
Сцерва,.. падла,.. карова,..
сука...

Руку джагнула, быццам токам.
Баба побач сапіць з прысвістам.
А разбудзіш — дабро ж
не скажа:
„Проспала с националистом!“

Вось і ты мне „нацмен“ навесіў.
Хто цябе навучыў такому?
Аднак ж мы радзімы дзеці,
Плюнь ты здраджваць.
Вяртай дадому!

**Вітаўт Мартыненка,**
**г. Мінск**

— ⁕ —

Клініка ў аднаўленым касцёле
Уначы — трывожны крык савы.
Збіты, паламаны, ледзь жывы
Я стагну і курчуся ад болю.

Ложак мой стаіць на алтары.
І анёлы на бяздонным нефе
Плаваюць, нібы на сёмым небе
Моляцца і просяць: не памры.

Сэрца ўстрапянецца, задрыжыць
Ад раптоўнай музыкі аргана.
Паміраць не хочацца, бо рана.
Хочацца яшчэ на свеце жыць.

Трызнячы ад болю на зары,
Як прароцтва я прысніў нагдове:
З Богам гавару на роднай мове.
Мне б яшчэ з людзьмі
пагаварыць!

**Леанід Пранчак,**
**г. Мінск**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Міхась Пазнякоў

## МАРА

Я вучуся ў першым класе,
Сам чытаю і лічу.
Як мой брат старэйшы Вася,
Быць выдатнікам хачу.

Горад сонечны, вясёлы
Я вучуся маляваць.
І калі закончу школу —
Буду горад будаваць.

## НАША СЯМ'Я

Раз —
Паперу дастаю!
Намалюю нашу
Дружную сям'ю.
Два —
Аловак прада мной,
Тут жа спірка
Пад рукой!
Тры, чатыры —
Мама, тата!
Пяць —
Сястрычка Ната!
Шэсць —
Сярэдняя Святлана!
Сем —
Старэйшая Таццяна!
Восем —
Брат малодшы Ясь!
Дзевяць —
І старэйшы брат Адась!
Дзесяць — я.
Завуся Борам.
Наша ўся сям'я
У зборы.



На ўроку беларускай мовы ў восьмым класе ў Рыбалах.

# ЯК НАВУЧЫЦЦА ЧЫТАЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ ДРУГАКЛАСНІКАМ У РЫБАЛАХ?

Нядаўна „Зорцы“ давялося пабываць у падставовай школе ў Рыбалах. І прыемна было нам даведацца, што многія дзеці тут вывучаюць родную мову.

Шматлікі тут і вельмі здольны восьмы клас. Гэта падпора настаўнікаў у школе. Гэта яны з'яўляюцца актывістамі ў кожным школьным мерапрыемстве. Для іх пачаўся апошні год у роднай школе. Перад імі паўстае праблема выбару далейшага шляху ў жыцці, выбару адпаведнай школы. Але ўсе васьмікласнікі-беларусы згодны ў адным — беларуская мова — гэта найдаражэйшая іх спадчына, якую атрымалі ад сваіх бацькоў. І шанаваць яе — іх вялікі грамадскі абавязак. Аб усім гэтым размаўлялі мы на нашай сустрэчы.

Такая ж сустрэча адбылася з „Зоркай“ і ў спалучаных шостым і сёмым класах. Маладзейшыя дзеці таксама стараюцца добра вучыцца і ведаць сваю мову, свае песні, традыцыі. Паўспаміналі мы супольна, як у вёсцы ходзяць калядаваць, як святкуюць вяселлі ці хрысціны. Ва ўсім гэтым рыбалаўскія дзеці ахвотна ўдзельнічаюць і вельмі любяць свае народныя традыцыі.

Неяк так здарылася, што сёлета ў вучняў трэцяга класа ў Рыбалах няма беларускай мовы. І з гэтай прычыны другакласнікі засталіся сёлета без урокаў беларускай мовы. Бо, паводле міністэрскіх пастаноў, каб у адным класе магла быць беларуская мова, трэба каб было 12 ахвотных. А ў іх класе столькі дзяцей наогул няма. Каб можна было спалучыцца з трэцім класам, дык хапіла б толькі чатырох ахвотных. А тут хоча вучыцца беларускай мове пяцёра дзяцей, і не могуць! „Як гэта ёсць“ — пытаюцца яны, здзіўленыя, у „Зоркі“.

З гэтай справай „Зорка“ звярнулася да Куратара Беластоцкай Куратoрыі. Працаўнікі Куратoрыі абяцалі прааналізаваць гэтую справу і, калі спатрэбіцца, выступіць да Міністэрства асветы і выхавання з просьбай перагледзець нелагічную гэтую пастанову. А пакуль што другакласнікі павінны нагаварыць хоць аднаго вучня трэцяга класа, каб захацеў хадзіць да іх на заняткі па беларускай мове. І тады ўсё будзе згодна з правам.

Што ж, пачакаем. А пакуль што раім другакласнікам прасіць сваіх мам ці старэйшых братоў і сясцёр, каб пачыталі ім казкі і вершы з „Зоркі“ і каб не забываліся гаварыць да іх на сваёй роднай мове.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**



На сустрэчы з „Зоркай“ у шостым і сёмым класах. [illegible] тут беларуск[illegible] настаўніца Лідзія Смалеўская.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

